МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№11 (139)
лістапад 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ЯК "СЬВІТАНАК" УЗНЯЎСЯ НАД РЫГАЙ

Вячка Целеш расказвае пра тое, як паўстала Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак".

*Чытайце на стар. 4-5*

### ДЗВЕ АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ УКРАІНЫ АБ'ЯДНАЛІСЯ ПАДЧАС З'ЕЗДУ Ў КІЕВЕ

13 лістапада 2013 года адбыўся ІІІ з'езд "Усеўкраінскага саюза беларусаў".

*Чытайце на стар. 5*

### "ДЗЯДЫ" Ў БЕЛАРУСКІМ ЗАМЕЖЖЫ

Беларусы ў розных краінах адзначылі "Дзяды".

*Чытайце на стар. 6*

### 93-Я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

Напрыканцы лістапада беларусы адзначылі 93-ю гадавіну Слуцкага паўстання.

*Чытайце на стар. 7*

### ЗАКОНАПРАЕКТ "АБ БЕЛАРУСАХ ЗАМЕЖЖА" ПРЫНЯТЫ Ў ПЕРШЫМ ЧЫТАННІ

Гэта адбылося 22 лістапада падчас сесіі Палаты прадстаўнікоў.

*Чытайце на стар. 8*

НАВІНЫ ДРУКУ

## МАТЭРЫЯЛЫ ПРА ПАВАЕННУЮ РАДУ БНР – УПЕРШЫНЮ ПАД АДНОЙ ВОКЛАДКАЙ

Сёлета адзначаецца 110 гадоў з дня нараджэння першага Прэзідэнта паваеннай Рады БНР Міколы Абрамчыка (1903—1970). Гэта стала нагодай для выдатнай падзеі – выдання кнігі "Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы". У ёй упершыню зробленая спроба рэпрэзентацыі матэрыялаў пасляваеннай эміграцыйнай дзейнасці Рады БНР.




Згуртаванне "Бацькаўшчына" выдала гэтую 22-ю кнігу ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" (заснаваная ў 2004 г.) сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША) дзякуючы Беларуска-амерыканскаму грамадскаму цэнтру "Полацак" (ЗША) і Згуртаванню беларусаў у Вялікай Брытаніі.

Укладальнікі выдання — абодва сябры Рады Згуртавання "Бацькаўшчына", аўтары ўнікальных кніг пра беларускую эміграцыю: даследчык гісторыі беларусаў замежжа, кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка і архівіст, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША Лявон Юрэвіч.

Упершыню ў кнізе публікуюцца пратаколы пасяджэнняў Рады і Ураду, найважнейшыя дакументы, ліставанне — усё тое, што дапаможа асэнсаваць, якія падзеі адбываліся ў палітычным жыцці беларускай эміграцыі на Захадзе ў паваенны час.

Асноўны змест кнігі склалі дакументы, датычныя дзейнасці Рады БНР часоў Міколы Абрамчыка — 1947—1970 гг. Кніга складзеная найперш на падставе матэрыялаў са збораў Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк). Таксама ў ёй былі выкарыстаныя дакументы і ліставанне са збораў Янкі Запрудніка (ЗША), Тамары Стагановіч (Кольба) (ЗША), Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане. У Лондан дакументы трапілі праз сям'ю Жук-Грышкевічаў, а лісты ад самога Міколы Абрамчыка. Калекцыя дакументаў і лістоў, што ўвайшлі ў кнігу, таксама захоўваецца ў беларускіх фондах Бібліятэкі і архіваў Канады (Атава).

Пра працу над выданнем расказала Наталля Гардзіенка:

"Праца над кнігаю "Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы" заняла каля двух гадоў. Ідэя выдання належыць майму калегу і сябру Лявону Юрэвічу, які і распачаў працу, звязаную з пошукам і падрыхтоўкай найперш дакументальных матэрыялаў, што склалі аснову кнігі. Адшукваць і расчытваць пратаколы і дакументы да дзейнасці Рады БНР было няпроста. Значная частка пратаколаў была ў зборах БІНіМу, куды яны трапілі рознымі шляхамі, асобныя былі знойдзеныя ў Канадзе ды лонданскай Скарынаўцы.

Кніга задумвалася як выданне, звязанае з 110-гадовымі ўгодкамі Міколы Абрамчыка (1903—1970). І мы паспрабавалі скантактавацца з сынам першага паваеннага Прэзідэнта Рады БНР, які жыве ў Парыжы, каб адшукаць нейкія прыватныя матэрыялы пра яго бацьку. Аднак, на жаль, спатканне жаданых вынікаў не мела. Ніякіх матэрыялаў у сына, паводле ягоных словаў, не аказалася. Тым не менш, цікавыя лісты Міколы Абрамчыка былі

➲

Працяг. Пачатак на с.1

знойдзены ў розных эміграцыйных зборах, так што сур'ёзным пытаннем стаў адбор таго, што варта ўключаць у кнігу.

Шмат сілаў і часу забрала каментаванне пратаколаў, дакументаў, ліставання. Паўсюль згадваюцца шматлікія дзеячы не толькі беларускай эміграцыі, але і расійскай, польскай, літоўскай, украінскай, латвійскай, эстонскай, грузінскай і г.д. Да таго ж, кіраўніцтва Рады БНР кантактавала з вялікай колькасцю амерыканскіх палітыкаў. Пераважную большасць згаданых у дакументах імёнаў удалося ўрэшце ідэнтыфікаваць і падаць звесткі пра гэтых асобаў.

Цікавай часткай падрыхтоўкі кнігі стала стварэнне гістарычнага нарысу, для якога выкарыстоўвалася багата рознага матэрыялу не толькі з дакументаў, падрыхтаваных у самой кнізе, але і іншых. Хоць мы не ставілі сабе на мэце зрабіць вычарпальнае даследаванне дзейнасці Рады БНР на эміграцыі. Гэтая справа яшчэ наперадзе. Нам хацелася акрэсліць асноўныя напрамкі, праблемы, дасягненні. На гэта працуе і ўся кніга. Акрамя дакументаў тут пададзеная бібліяграфія БНР-аўскіх публікацыяў, зробленая хроніка асноўных падзеяў, сабраныя біяграфічныя нарысы некаторых дзеячаў.

Для нас было важна, што кніга рабілася як бы па-за існуючай Радай БНР, як выданне не заангажаванае ў палітычныя падзеі на эміграцыі і з выключна навуковымі мэтамі. Гісторыя Рады БНР на чужыне — важная старонка айчыннай гісторыі, вывучэнню якой мы і хацелі паспрыяць".

Кніга ўжо даступная ў "Акадэмкнізе" (Мінск, пр-т Незалежнасці, 72), кнігарні "логвінаЎ" (пр-т Незалежнасці, 37а), на кніжным рынку "Мир книг" (Мінск, вул. Я.Купалы, 27, 1-е месца справа ад увахода ў павільён), у кнігарні "Кніжны салон" (Мінск, вул. Калініна, 5), у інтэрнэт-краме knihi.by, а неўзабаве з'явіцца і ў іншых кнігарнях Беларусі.

*Інфармацыйны цэнтр "МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АЛЬМАНАХА "БЕЛАРУС"




9 лістапада ў Міжнародным доме маракоў на Манхэтэне (Нью-Ёрк, ЗША) адбылася прэзентацыя чарговага, 7 па ліку, літаратурнага штогадовага выдання беларускіх пісьменнікаў замежжа – альманаха "Беларус". Прэзентацыя адбылася падчас сходу БАЗ "Пагоня", вёў імпрэзу адзін з аўтараў выдання, празаік і выкладчык Віталь Воранаў. Удзел таксама бралі: выдавец і галоўны рэдактар Марат Клакоцкі, старшыня БАЗ "Пагоня" і сталы аўтар альманаха Віталь Зайка, вядомы бард, паэт і перакладчык Сяржук Сокалаў-Воюш, свой верш "Жыццё" прачытала маладая аўтарка Таццяна Саланко. Апладысментамі віталі прысутныя старэйшыну беларускай дыяспары ў Амерыцы 98-гадовага Антона Шукелойця, які распавёў гісторыю ранейшых беларускіх эмігранцкіх выданняў.

У альманаху "Беларус" друкуюцца літаратурныя творы як прафесіяналаў, так і аматараў. А набыць яго можна, наведаўшы старонку ў інтэрнэце: www.e-krama.com.

*youtube.com*

## ЛЮДВІКА КАРДЗІС СПРАБУЕ АДРАДЗІЦЬ БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У СУЧАСНАЙ ВІЛЬНІ

Традыцыя беларускай музейнай справы ў Вільні бярэ пачатак ад 1856 года, калі Яўстафій Тышкевіч адкрыў музей старажытнасці на аснове музейных экспанатаў з Лагойску, прывезеных у Вільню на выставу ў 1845 годзе. Пазней ён стаў музеем віленскага ўніверсітэта. З XX ст., ад часу стварэння беларускага музея Іванам Луцкевічам, пачынаецца новая старонка беларускай музейнай справы. Максім Багдановіч сказаў у 1911 годзе: "Гэта ёсць фундамент нашага Адраджэння. Гэта і за 1000 гадоў будзе сведчыць аб нас".

Лёс музея Івана Луцкевіча быў трагічны – ён быў зачынены ў 1945 годзе, унікальная калекцыя разышлася па іншых музеях.

У 1990-ыя гады з'явілася ідэя аднавіць Беларускі музей у Вільні. Адным з ініцыятараў гэтай справы стаў Сяржук Вітушка – муж Людвікі Кардзіс, лідар моладзевага нацыянальнага руху 1980-ых. Пачаўся збор экспанатаў, якія і цяпер, пасля смерці ў 2012 годзе Сержука Вітушкі, захоўваюцца ў кватэры Людвікі Кардзіс.

Людвіка паказвае экспанаты і гаворыць: "З закрыццём музея ў 1945 годзе гэтая справа не спынілася. Яе падтрымалі прыватныя асобы – Пётра Сергіевіч, Зоська Верас, Адольф Клімовіч, Язэп і Надзея Шнаркевічы ды іншыя. Пасля іх гэтую справу працягнулі маладзейшыя віленскія беларусы: Зоя Каўшанка, Янка Багдановіч, Аляксей Анішчык, Лявон Луцкевіч, Лявон Кароль ды іншыя. Сёння музейную справу перанялі мы – Грамадская арганізацыя "Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча". Грамадская арганізацыя існуе з 2001 года. Мы не маем фінансавання і памяшкання, але мы маем на мэце збіраць, захоўваць, вывучаць, экспанаваць прадметы, якія распавядаюць пра гісторыю і культуру беларусаў Вільні. Безумоўна, калі б было сталае фінансаванне і памяшканне, калі б былі навуковыя кадры – гэта рабілася б больш якасна, з шырэйшым размахам. А пакуль робім, што можам. Літоўскія законы дазваляюць фізічным асобам ахвяраваць 2 адсоткі ад сплачанага падатку на грамадскія арганізацыі. Мы ўдзячныя нашым ахвярадаўцам, сабраныя грошы мы трацім на набыццё беларускіх экспанатаў.

Мы верым, што такіх паступленняў у музей магло б быць намнога больш, калі б было сталае памяшканне для іх захоўвання. Задача стаіць у гуртаванні навуковых сілаў і матэрыяльных сродкаў, і тады музей у Вільні стане рэальнасцю".

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## БЕЛАРУСКАЯ СУПОЛКА "УЗДЫМ" (ЛАТВІЯ)
### АБРАЛА НОВАГА СТАРШЫНЮ ПРАЎЛЕННЯ

Ранейшы лідар таварыства Барыс Іваноў склаў і дэпутацкія паўнамоцтвы ў Даўгаўпілскай думе: па сямейных абставінах ён вымушаны знаходзіцца па-за межамі Латвіі. Новы кіраўнік Цэнтра беларускай культуры абраны на справаздачна-выбарным сходзе Даўгаўпілскага беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым". Валерый Амбросаў мае вышэйшую адукацыю, актыўна працуе ў суполцы з 2006 года, выступае ў створаных пры ёй гуртах "Купалінка" і "Лянок". Ён выказаўся за тое, каб і далей развіваць і пашыраць беларускую культуру, традыцыі ў цеснай сувязі з культурай латышскай, далучацца да гарадскіх імпрэзаў, дзейнічаць супольна з Саюзам беларусаў Латвіі.

*Паводле газеты "Голас Радзімы"*

## ПАМЕРЛА САЦЫЁЛАГ ГАЛІНА ДРАКАХРУСТ



Кандыдат філасофскіх навук Галіна Дракахруст памерла 16 лістапада. Ёй было 54 гады.

"Галіна была сацыёлагам, у 1990-ых яе даследаванні друкавала незалежная прэса. Галя застанецца ў нашай памяці годным і светлым чалавекам. Не забудзем і тое, што ў 1996-ым у яе кватэру ўварваліся некалькі бандытаў і жорстка яе збілі — яна была адной з першых ахвяраў "індывідуальнага тэрору", – напісаў у сваім фэйсбуку журналіст "Радыё Свабода" Сяргей Навумчык.

Пляменніца Галіны Дракахруст Наталля Манаева напісала, што апошнія шэсць месяцаў жанчына змагалася з ракам.

Кіраўнік беларускай службы "Радыё Свабода" Аляксандр Лукашук адзначыў: "Яе праца ў НІСЭПД у 1990-я гады была добра вядомая прафесійным сацыёлагам, журналістам, дыпламатам, палітыкам. Заўсёды элегантная, аматарка экзатычных аўтамабіляў, падарожніца, яна з лёгкім гумарам ставілася да жыцця і яго часам невясёлых праблемаў – мы не чулі нараканняў і скаргаў, нават калі анколагі адмаўляліся ўжо брацца за яе лячэнне".

Цягам апошніх 12 гадоў яна разам са сваім мужам, палітычным аглядальнікам Юрыем Дракахрустам жыла ў Празе. Юрый працуе на "Радыё Свабода".

*Паводле "Нашай Нівы" і "Радыё Свабода"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні блізкім і калегам Галіны Дракахруст. Светлая ёй памяць!***

## У КРЫНКАХ РАЗВІТАЛІСЯ З ТАЦЦЯНАЙ ЯНОВІЧ

Родныя і сябры развіталіся ў Крынках з Таццянай Яновіч, жонкай вядомага беларускага пісьменніка Сакрата Яновіча.

Жалобнае набажэнства адбылося ў мясцовай царкве Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы. На развітанне прыйшлі дзеці Яновічаў, а таксама сябры і знаёмыя, якія былі частымі гасцямі ў іх хаце.

Ярослаў Яновіч: "Аднойчы я ішоў з маці па вуліцы, і запытаў колькі мне гадоў, яна сказала, што шэсць. З прыемнасцю гэта ўспамінаю".

Юрый Хмялеўскі: "Успамінаю атрасіны ў 80-ыя гады ў беластоцкім клубе "Gwint". Тады Сакрат быў у нас госцем – у БАСаўцаў, з ім была Таня, памятаю яе народны беларускі строй. Яна была вельмі ветлівай асобай, заўсёды разам з Сакратам".

Лёнік Тарасевіч: "Пара людзей, якія дапаўнялі адно аднаго. Сакрат быў інтэлектуальным рухавіком, а Таня старалася ўсё гэта спалучыць, была такім анёлам Сакрата".

Таццяна Яновіч памерла 31 кастрычніка на 78 годзе жыцця. Яна была пахаваная побач са сваім му-




жам Сакратам на крынкаўскіх праваслаўных могілках.

*Паводле "Беларускае Радыё Рацыя"*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім Таццяны Яновіч. Рай светлы яе душы!***

## НЕ СТАЛА МАРЫЛІ ПЕЦЮКЕВІЧ



6 лістапада прыйшла з Рыму сумная вестка – не стала Марылі Пецюкевіч, дачкі слыннага беларускага дзеяча Мар'яна Пецюкевіча. Пра яе піша Алесь Адамковіч.

Яна належала да тых беларускіх патрыётаў, якія Беларусь пранеслі праз усё жыццё. Любіла яе ўсім сэрцам і марыла пра вольнасць бацькаўшчыны і вяртанне беларускай мовы. Усё жыццё прысвяціла захаванню і папулярызацыі спадчыны свайго бацькі Мар'яна Пецюкевіча.

Нарадзілася Марыля Пецюкевіч у 1943 годзе ў Вільні. Маленькай зведала ГУЛАГ. Разам з бацькам была рэпрэсаваная ў 1949 годзе. Пасля вызвалення сям'я пераехала ў Польшчу. Пазней Марыля Пецюкевіч выехала ў Рым, дзе працавала на Ватыканскім радыё да выхаду на пенсію.

Мне пашчасціла з ёй быць асабіста знаёмым. Уражвала яе велізарная, шчырая любоў да Беларусі і беларускай мовы. У самой Беларусі яна была толькі аднойчы – у 2008 годзе. Кожны раз у сваіх лістах яна выказвала надзею на адраджэнне Бацькаўшчыны і яе мовы. На жаль, не дачакалася.

У адным з лістоў яна пісала мне: "Вы чакаеце ад мяне ўспамінаў аб маім бацьку спакойных і ўраўнаважаных. Але мае ўспаміны аб ім зводзяцца перадусім да аблічэння страшнай сістэмы масавага злачынства, учыненага супраць шматлікіх народаў, што ў сусветным маштабе неабходна называць генацыдам. Я маю на ўвазе сістэматычнае знішчэнне не толькі беларускага этнасу як такога, але перадусім і знішчэнне беларускай інтэлігенцыі".

Спі спакойна ў Вечным Горадзе, у нябеснай Беларусі. І няхай Табе сняцца сны аб роднай Браслаўшчыне, Вільні і вольнай Беларусі!

*Паводле westki.info*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" смуткуе з нагоды смерці Марылі Пецюкевіч і выказвае шчырыя спачуванні ўсім яе родным і сябрам. Вечная памяць!***

# ЯК "СЬВІТАНАК" УЗНЯЎСЯ НАД РЫГАЙ

***Да 25-годдзя Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак".***

Быў цікавы час – 1988-89 гады – час Атмоды (Адраджэння) у Латвіі, перабудова прынесла хвалю ветру свабоды як латышам, так і прадстаўнікам іншых нацыянальнасцяў Латвіі з еўрапейскімі дэмакратычнымі поглядамі і ідэаламі. Той вецер абуджаў, прымушаў не сядзець, а ісці на плошчы, каб супольна адрадзіць незалежную Латвійскую дзяржаву. Захапіў вецер Атмоды і беларусаў Латвіі. У першую чаргу гэта была інтэлігенцыя: настаўнікі, медыкі, мастакі, інжынеры, а таксама простыя людзі, якім балела за нашу беларушчыну, якія бачылі, што з аднаўленнем Латвійскай дзяржавы ім даецца магчымасць адрадзіць беларускую школу, беларускую культуру, родную мову, што існавала ў Латвіі ў 1920-30-х гадах.

Тады быў час цікавы, але і час напружаны. Безумоўна, не ўсе беларусы насмельваліся далучацца да тых падзеяў. Да гэтага часу існавала таталітарная савецкая дзяржава СССР са сваёй камуністычнай ідэалогіяй, у якую ўваходзіла і Латвія. Афіцыйныя ўлады імкнуліся спыніць развал савецкай імперыі, іх падтрымлівала пэўная частка савецкіх людзей. У асноўным гэта была наменклатура камуністычнай партыі, патрыёты савецкай дзяржавы, яны стварылі Інтэрфронт для падтрымкі існуючай улады. Яму супрацьстаяў створаны інтэлігенцыяй Латвіі Народны Фронт, у які ўваходзілі і латышы, і многія прадстаўнікі рускіх, палякаў, беларусаў, украінцаў і іншых нацыянальнасцяў. Народны Фронт таксама дапамагаў нацыянальным меншасцям у стварэнні нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі на аснове закона аб нацыянальнай культурнай аўтаноміі.

У 1988 годзе ў Рызе пачалі стварацца таварыства польскай, літоўскай, нямецкай і іншых культур. Знайшліся і прадстаўнікі трох усходнеславянскіх нацыянальнасцяў, якія вырашылі стварыць таварыства не па нацыянальнай прыкмеце, каб беларусы і ўкраінцы не разышліся па сваіх нацыянальных кватэрах, як яны тады казалі, а былі ўсе разам. Яны прапанавалі стварыць Балта-славянскае культурнае таварыства. Я таксама быў запрошаны на той сход, але калі я зразумеў, што ў тым аб'яднанні ізноў будзе дамінаваць, як і ў савецкі час, руская мова, культура і гісторыя, ізноў будзе галоўным старэйшы брат, то вырашыў не ўступаць у гэтую арганізацыю: я – не балта-славянін, я – беларус. Так нарадзіліся думкі і прыспела рашэнне аб стварэнні свайго, беларускага, таварыства, дзе будзе гучаць нашая мова, дзе мы будзем працягваць справу нашых папярэднікаў-беларусаў, якія заклалі падмурак нашай беларускай хаты ў Латвіі яшчэ ў дасавецкія часы. Гэта зразумелі і таксама не ўступілі ў тое таварыства яшчэ некаторыя беларусы, што былі на тым сходзе, хоць некаторыя беларусы засталіся з так званымі Балтаславянамі.

У той час у Рыгу наведаўся з Мінска мой сябар – вядомы беларускі паэт Сяргей Панізнік. Калі ён зайшоў да мяне ў майстэрню, я расказаў пра сітуацыю. Пасля нашай сустрэчы ён пабываў на свяце 100-годдзя выдання эпасу "Лачплесіс" Андрэя Пумпуры, і там пры сустрэчы з Янісам Пэтэрсам Сяргей расказаў пра намер беларусаў Рыгі заснаваць Беларускае таварыства. Яніс Пэтэрс 11 кастрычніка 1988 года падчас выступлення на Устаноўчым сходзе Народнага Фронту Латвіі прапанаваў дапамагчы беларусам у стварэнні Латвійскага таварыства беларускай культуры, як некалі нас падтрымаў Яніс Райніс.

Пасля гэтага са мною звязалася прадстаўніца Народнага Фронту журналістка Ая Лацэ, з яе дапамогай ў расейскамоўнай прэсе і на радыё абвясцілі аб сходзе беларусаў для стварэння ЛТБК. 13 лістапада 1988 года ў памяшканні Дома культуры прафсаюзаў Латвіі ў Старой Рызе на вуліцы Амату, 5 адбыўся сход. Там была абрана ініцыятыўная група з 16 чалавек па стварэнні таварыства. Была выбраная рэдкалегія па напісанні статута таварыства. У яе ўвайшлі ўрач Сяржук Кузняцоў, мастак Вячка Целеш, інжынер Дзмітры Лаўроў, авіятэхнік Аляксандр Жукаў, слесар Аляксей Арочка і докер Рыжскага порта сябра Народнага Фронту Латвіі Уладзімір Вусік. 20 лістапада ў майстэрні Вячкі Целеша Рэдакцыйнай групай быў напісаны статут таварыства, якому была дадзена назва "Сьвітанак" — у гонар вядомай песні І.Лучанка, якая першыя гады была гімнам таварыства.

27 лістапада 1988 года ў Рызе, у перапоўненай Зялёнай зале Дома культуры прафсаюзаў, адбыўся ўстаноўчы сход Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак". На ім ад НФЛ выступіла Ая Лацэ. З таго часу яна стала шчырым сябрам таварыства і бывала на ўсіх нашых мерапрыемствах. Дарэчы, тады ж да нас далучылася і была сябрам Рады "Сьвітанку" да апошніх сваіх дзён кандыдат філалагічных навук, перакладчыца і аўтарка "Беларуска-латышскага слоўніка", сябра У.Караткевіча і А.Мальдзіса, латышка Мірдза Абала. На ўстаноўчым сходзе быў абраны старшыня таварыства – малады вучоны-медык, супрацоўнік Акадэміі навук Латвіі Сяржук Кузняцоў. Я, Вячка Целеш, стаў яго намеснікам, была абраная Рада таварыства са старшынёй Адольфам Жуком.

У "Сьвітанак" тады ўступіла больш за сто чалавек. Сяргей Панізнік быў на першым сходзе і стаў адным з першых сябраў таварыства.

Асноўнымі мэтамі таварыства былі: захаванне сваёй ідэнтычнасці, беларускай мовы, культуры і гістарычнай спадчыны, папулярызацыя беларускай культуры ў Латвіі. Галоўнымі задачамі "Сьвітанку" сталі: адкрыццё ў Рызе беларускай школы, Беларускай мастацкай студыі, заснаванне бібліятэкі, стварэнне ансамбля беларускай песні.

Гэтыя мэты і задачы таварыства паступова рэалізоўвала. Найбольш плённымі былі 1989-94 гады, калі ў Беларусі таксама ішло Адраджэнне. Тады ж былі створаныя Беларуская мастацкая студыя "Вясёлка", Беларуская нядзельная школа, Аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар", Рыжская Беларуская асноўная школа. У пачатку 1990-х гадоў была створаная беларуская радыёпраграма "Сьвітанак" на Латвійскім радыё, якую вялі Сяржук Кузняцоў і Наталля Камілеўская, з 1991 года і да сённяшняга часу яе вядзе Таццяна Касуха. Пазней быў створаны ансамбль "Сьвітанак".

Калі стварылася незалежная Рэспубліка Беларусь, то з боку дзяржавы ўдзялялася шмат увагі і дапамогі "Сьвітанку". У часы беларускага Адраджэння былі пастаяннымі кантакты "Сьвітанку" з дзяржструктурамі Беларусі – Міністэрствам культуры і Міністэрствам адукацыі.

Тады ж сябра ініцыятыўнай групы заснавання таварыства студэнт Рыжскага політэхнічнага інстытута Вадзім Паўловіч аднавіў выданне газеты "Голас Беларуса", якая выдавалася Кастусём Езавітавым у 1920-30-х гадах. У 1993 годзе таварыства з дапамогай Міністэрства інфармацыі Беларусі, Першага Іерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Мітрапаліта Мікалая і Алеся Палескага з Канады пачалося выданне часопіса "Сьвітанак". Цяпер прэсу замяніў інтэрнэт, і на сайце "Сьвітанку" www.svitanak.lv ёсць шмат цікавай беларускай інфармацыі.

У 1992 годзе таварыства ўдзельнічала ў Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа, а ў 1993-м – у Першым з'ездзе беларусаў свету. Сувязі таварыства са Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", завязаныя ў 1990-х гадах, і дагэтуль ніколі не парываліся.

За 25 гадоў змяняліся і склад, і старшыні таварыства. На змену Сержуку Кузняцову, які больш плённа заняўся навукай, прыйшоў навуковец, доктар хімічных навук Мікола Ярчак, які вельмі актыўна працаваў у таварыстве. Пасля яго ад'езду на педагагічную працу ў Брэсцкі ўніверсітэт яго змяніў мастак Васіль Малышчыц. Плённа працавала

## ЯК "СЬВІТАНАК" УЗНЯЎСЯ НАД РЫГАЙ

*Працяг. Пачатак на с.4*

старшынёй "Сьвітанку" інжынер Таццяна Казак. Пасля яе старшынёй таварыства была выпускніца Рыжскай Беларускай нядзельнай школы фатограф Алена Капыціч (Ціхамірава). Цяпер Латвійскае таварыства беларускай культуры ўзначальвае маладая і актыўная старшыня, псіхолаг Ірына Кузьміч.

За чвэрць стагоддзя існавання "Сьвітанку" ім зроблена вельмі шмат па адраджэнні і захаванні беларушчыны ў Латвіі, нягледзячы на розныя палітычныя і эканамічныя крызісы, якія адбыліся за гэты час. І гэта дзякуючы таму, што ў таварыстве стала і даўно працуюць выдатныя рупліўцы на ніве беларускага адраджэння ў Латвіі: журналістка Таццяна Касуха, паэтка і музыка, супрацоўніца бібліятэкі Медыцынскага ўніверсітэта імя П. Страдыня Наталля Каміleўская, дырэктар Рыжскай Беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы Ганна Іванэ, былая вучаніца Індранскай беларускай гімназіі, доктар фізіка-матэматычных навук Наталля Цімаховіч, унучка Сяргея Сахарава Нона Ахметулаева, сям'я Ігнатавых, мастак Анатоль Ермаковіч, медсястра Таісія Бачкарова і інш.

Надзейнымі сябрамі "Сьвітанку" з пачатку 1990-х гадоў і да канца сваіх дзён былі Ірына Сяргееўна Вількель (Сахарава), дачка слыннага беларускага педагога і фальклярыста, бізнэсовец, фундатар і грамадскі дзеяч Янка Кабановіч, музыка і кампазітар Станіслаў Клімаў.

Таварыства з першых дзён заснавання ўдзельнічае ў розных імпрэзах, фестывалях, канферэнцыях і сустрэчах, якія праводзяцца як дзяржаўнымі структурамі, так і Асацыяцыяй нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч. Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак", світанкаўцы сваёй культурніцкай дзейнасцю, сваёй лаяльнасцю і падтрымкай дэмакратычнай Латвійскай дзяржавы добра вядомыя ў гэтай краіне. Менавіта прадстаўнікі нашага таварыства былі і ёсць сябрамі Кансультатыўнай Рады нацыянальных меншасцяў пры прэзідэнце Латвійскай Рэспублікі.

Сваё свята — 25-гадовы юбілей сёлета сьвітанкаўцы меліся адзначыць 23 лістапада, аднак у сувязі з трагедыяй - абрынаннем гандлёвага цэнтра ў Рызе - мерапрыемства адклалі. На свяце чакаліся госці з Беларусі – прадстаўнік ЗБС "Бацькаўшчына" Барыс Стук, паэт і перакладчык, кавалер ордэна Трох Зорак Латвіі паэт і публіцыст Сяргей Панізнік, музыка і спявак Зміцер Вайцюшкевіч, ну і, вядома ж, мясцовыя беларусы і афіцыйныя асобы ўлады.

*Паводле сябра Рады ЛТБК "Сьвітанак" Вячкі Целеша*

## ДЗВЕ АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ УКРАІНЫ АБ'ЯДНАЛІСЯ ПАДЧАС З'ЕЗДУ Ў КІЕВЕ




III з'езд "Усеўкраінскага саюза беларусаў" (УСБ) адбыўся 13 лістапада 2013 года ў Гандлёва-прамысловай палаце Украіны ў Кіеве пад старшынствам Фёдара Кавалевіча.

У працы з'езду ўзялі ўдзел арганізацыі беларусаў з 19-ці рэгіёнаў Украіны, дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны – беларуска Вольга Міхайленка, а таксама Ганаровы старшыня УСБ, першы амбасадар Беларусі ва Украіне Віталь Курашык.

Асноўным пытаннем з'езду было аб'яднанне УСБ з іншай буйной арганізацыяй дыяспары – "Усеўкраінскім аб'яднаннем "БЕЛАРУСЬ". З'езд пацвердзіў уступленне аб'яднання калектыўным сябрам ва "Усеўкраінскі саюз беларусаў". Старшынёй УСБ быў абраны Пётр Лайшаў, а яго намеснікамі – Віктар Камісарук, Мікалай Бойка, Аляксандр Драгун. Ганаровым старшынёй Саюза стаў беларус па паходжанні, прэзідэнт Гандлёва-прамысловай палаты Украіны Чыжыкаў Генадзь Дзмітрыевіч.

З'езд падзякаваў за шматгадовую працу нязменнаму лідару УСБ Ірыне Аржахоўскай, якая ўзначальвала арганізацыю з 2000 года. Таксама быў абраны новы склад кіроўных і кантралюючых органаў.

З'езд не застаўся без увагі з боку дзяржаўных органаў і грамадскіх аб'яднанняў, якія даслалі свае вітанні.

Ігар Мілідовіч, дарадца-пасланнік Пасольства Рэспублікі Беларусь, зачытаў прывітанне на адрас з'езду ад імя Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь ва Украіне Валянціна Вялічкі. Вітальны ліст ад Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы" і вітальны адрас ад жонкі Прэзідэнта Украіны Людмілы Януковіч агучыла Соф'я Пасынкава. Максім Дубянок перадаў прывітанне на адрас з'езду ад Беларускага таварыства "Радзіма".

На з'ездзе прысутнічалі сябры Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Іна Снарская і Пятрусь Капчык. Іна Снарская ад імя беларусаў Палтавы і ад сябе асабіста прачытала патрыятычны верш са сваёй новай кнігі "Ад сэрца да сэрца – дарога..." і вітанне ўдзельнікам з'езду ад Управы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

У рэзалюцыі, прынятай па выніках працы з'езду, адзначаецца: "Мы, прадстаўнікі беларускай абшчыны Украіны, лічым, што ў сучасных умовах праблема захавання нацыянальнай ідэнтычнасці і культуры меншасцяў, якія пражываюць за межамі сваёй Радзімы, застаецца ва ўсім свеце адной з найбольш важных і актуальных. […]

Галоўнай сваёй мэтай мы лічым узаемаабагачэнне ўкраінскай і беларускай нацыянальных культур, што паслужыць добрай справе ўмацавання дружбы і пашырэнню сфер супрацоўніцтва паміж Украінай і нашай этнічнай Радзімай – Рэспублікай Беларусь".

У рэзалюцыі дэлегаты выказалі кансалідаваную пазіцыю па шэрагу пытанняў. У прыватнасці, з'езд павітаў разгляд Парламентам Рэспублікі Беларусь закона "Аб беларусах замежжа", з прыняццем якога звязвае пашырэнне магчымасцяў наладжвання культурных і дзелавых сувязяў з Радзімай. Для арганізацыі выніковай і плённай працы ў інтарэсах беларуска-ўкраінскіх нацыянальных абшчын кіраўніцтву УСБ даручана наладзіць цеснае ўзаемадзеянне з адпаведнымі дзяржаўнымі органамі Украіны і Рэспублікі Беларусь.

Таксама было адзначана, што беларуская супольнасць Украіны мае дастаткова рэсурсаў, каб больш актыўна ўдзельнічаць у справе ўмацавання эканамічных, вытворчых і навуковых сувязяў паміж Украінай і Рэспублікай Беларусь, на што будзе арыентаваць рэгіянальныя арганізацыі, што ўваходзяць у склад УСБ.

Выніковая рэзалюцыя заканчваецца наступнымі словамі: "III з'езд "Усеўкраінскага саюза беларусаў" пацвярджае, што беларуская абшчына Украіны адкрытая для камунікацыі і супрацоўніцтва, гатовая да ўзаемадзеяння з любымі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі ў справе ўзаемаўзбагачэння беларускай і ўкраінскай культур, садзейнічання іх развіццю ў інтарэсах народаў Украіны і Рэспублікі Беларусь".

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*Цалкам матэрыял чытайце на сайце zbsb.org*

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу Іне Снарскай, Петрусю Капчыку, Аляксандру Драгуну і Віктару Камісаруку.***

# "ДЗЯДЫ" Ў БЕЛАРУСКІМ ЗАМЕЖЖЫ

Беларусы здаўна адзначаюць Дзяды - дзень памінання продкаў. Прапануем пазнаёміцца з тым, як адзначылі гэтае свята беларускага народнага календара ў Швейцарыі, Літве, Польшчы, Чэхіі ды Канадзе.

### Бюрглен

Аб'яднанне беларусаў Швейцарыі ў суботу 2 лістапада наведала магілу славутай беларускай дзяячкі і мецэнаткі княгіні Магдалены Радзівіл, пахаванай на тэрыторыі жаночага кляштару Маці Божай з Кармелю ў вёсцы Бюрглен, што ў кантоне Фрыбур.

Манаская супольнасць сясцёр-кармелітак вельмі сардэчна сустрэла беларусаў, арганізавала для іх невялікую экскурсію па царкве і кляштары. Сябры Аб'яднання беларусаў Швейцарыі прыбралі магілу княгіні і яе родных, запалілі зніčы ды ўсклалі кветкі. На магіле актывісты ўсталявалі таксама шыльдачку з выявай гербу Радзівілаў. Сакратар Аб'яднання Сяргей Сіроткін распавёў прысутным пра жыццё і дзейнасць Магдалены Радзівіл.

Падчас урачыстасцяў да беларускай грамады далучылася старэйшая пара, каб запаліць зніčы. Выявілася, што да магілы Магдалены Радзівіл завітаў разам з жонкаю яе праўнук – спадар Бурпон. Ён штогод на Дзяды прыязджае на магілу сваёй прабабулі. Беларусы, узрушаныя неспадзяванаю сустрэчаю, пачалі распытваць спадара Бурпона пра яго прабабку ды ўзгаднілі наступную сустрэчу, каб запісаць успаміны пра княгіню Магдалену. "Мы былі вельмі ўзрушаныя, бо гэта быў нейкі цуд", – зазначылі ўдзельнікі святкавання.

### Вільня

2 лістапада беларусы наведалі могілкі Росы ў Вільні. А 1 лістапада ў літоўскай сталіцы маладзёны арганізавалі талаку ля помніка паўстанцам 1863 года на Лукішках, а таксама на пахаваннях славутых суайчыннікаў на могілках Росы. Тут пахаваныя ключавыя для гісторыі беларускай незалежнасці постаці – Іван і Антон Луцкевічы, драматург Францішак Аляхновіч, пісьменнік Ядвігін Ш., асветнікі Казімір Сваяк і Альбін Стаповіч.

Ёсць і магілы, пра якія разам з беларусамі дбаюць літоўцы і палякі. Напрыклад, Яўхіма Лялевеля, Уладзіслава Сыракомлі, бацькоў Марыі Ямант, Аляксандра Аскеркі, Уладзіслава Талочкі.

На Росах таксама пахаваныя менш вядомыя, але не менш значныя для нашай краіны асобы: пісьменнік Уладзіслаў Паўлюкоўскі, асветнік Станіслаў Станкевіч і архітэктар Леў Вітан-Дубейкаўскі.

Некаторыя з помнікаў патрабуюць рэканструкцыі або поўнай замены. Бадай у найгоршым стане аказаўся помнік Францішку Аляхновічу: недаўгавечны матэрыял паступова рассыпаецца.

### Варшава



Варшаўскія беларусы на чале з кіраўніком ініцыятывы "Беларуская нацыянальная памяць" Анатолем Міхнаўцом наведалі 2 лістапада могілкі Старыя Павонзкі. Тут знайшлі апошняе пристанішча кампазітар Станіслаў Манюшка, нарачоная Кастуся Каліноўскага Марыя Ямант, фатограф Ян Булгак, майстар польскага рэпартажу родам з Пінску Рышард Капусцінькі, пісьменнік Тадэвуш Далэнга-Мастовіч – аўтар вядомай экранізаванай у Польшчы аповесці "Знахар", журналіст і літаратар Адам Плуг (сапр. Пяткевіч).

На вайсковых могілках у раёне Павонзкі можна знайсці сімвалічную магілу Станіслава Булак-Булаховіча (там пахаваны яго сын; дзе ляжаць парэшткі самога генерала, невядома).

На паўночных камунальных могілках у Варшаве пахаваны паплечнік генерала Булак-Булаховіча, вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч, настаўнік Цімох Хведашчэня.

Праваслаўныя могілкі польскай сталіцы сталі месцам апошняга супакою для дзеяча СБМ, які пасля вызвалення з ГУЛагу эміграваў у Польшчу, пісьменніка і літаратурнага крытыка Янкі Жамойціна. Тут жа пахаваныя пісьменніца Алена Анішэўская і прадзед Паўла Севярынца, які быў праваслаўным святаром.

На могілках у горадзе Пясэчна пад Варшаваю актывісты БНП знайшлі магілу беларускага каталіцкага святара Вячаслава Аношкі. У іншым горадзе пад Варшавай – Отвацку – магіла жонкі Яна Пазьняка – аднаго з заснавальнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі на пачатку XX ст., дзеда Зянона Пазьняка.

### Прага

Нягледзячы на непагадзь, больш за два дзясяткі беларусаў прыйшлі на Альшанскія могілкі чэшскай сталіцы, дзе пахаваныя старшыні Рады БНР Пятро Крачэўскі і Васіль Захарка, а таксама оперны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі.

Цырымонія ля магілаў пачалася пад гукі дуды дудара Віталя Цімошчанкі.

Кароткія паніхіды ля магілаў адслужыў грэка-каталіцкі святар айцец Андрэй Абламейка ў саслужэнні з айцом дыяканам Вячаславам Гарчаковым.

Ля магілы Міхася Забэйды-Суміцкага былы саліст Беларускай філармоніі Сяргей Доўгушаў заспяваў некалькі беларускіх народных песняў.

Усе прысутныя разам праспявалі гімн "Магутны Божа".

Апошнія гады, дзякуючы рэгулярным прыездам у Прагу айца Андрэя Абламейкі, пражскія беларусы маюць магчымасць на Дзяды не толькі праявіць сваю грамадзянскую пазіцыю, прыходзячы да магілаў прэзідэнтаў БНР, але і паставіць свечку ды памаліцца за сваіх уласных Дзядоў — памерлых сваякоў і сяброў — на рэгулярных багаслужбах у царкве святых Кузьмы і Дзям'яна. Адрас царквы святых Кузьмы і Дзям'яна — Vyšehradska 49, Praha 2. Уваход з вуліцы Na Slovanech.

### Таронта

3 лістапада 2013 года ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры Таронта адбылося святкаванне Дзядоў.

Удзельнікі імпрэзы прыгадалі першае шэсце ў Курапаты, якое адбылося 25 гадоў таму, у 1988-м, а таксама тое, што ў 1994-м Курапаты наведаў тагачасны прэзідэнт ЗША Біл Клінтан.

Колішні старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук Галіна Сяргеева распавяла пра гістарычную ролю дзейнасці Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне".

"Ізноў была агучаная неабходнасць не забывацца пра гісторыю Бацькаўшчыны, раз-пораз узгадваць пра яе вызначальныя этапы, падзеі, асобаў. Бо, калі праўду не казаць, праўда знікне", — піша ў сваім лісце сакратар Парафіяльнай Рады Алесь Кот.

*Паводле матэрыялаў "Белсата" і "Радыё Свабода"*

*Фота: "Белсат"*

# 93-Я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

Напрыканцы лістапада беларусы ва ўсім свеце аддавалі даніну павагі і памяці змагарам за незалежнасць Бацькаўшыны - удзельнікам Слуцкага паўстання 1920 года, якое пачалося 27 лістапада. Напярэдадні ўгодкаў са зваротамі да беларусаў выступілі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", кіраўніцтва "Беларускага гістарычнага таварыства" і "Беларускай нацыянальнай памяці", Старшыні Беларускага Народнага Фронта "Адраджэньне" і Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ Зянона Пазьняка.

Шэраг мерапрыемстваў прайшоў на Случчыне 24 лістапада. Іх ладзілі як КХП-БНФ, так і Партыя БНФ, і ахвотныя маглі вольна далучыцца да святкавання. Былі наведаныя мясціны, звязаных з паўстаннем, прайшлі мітынгі ў гонар Слуцкага збройнага чыну, гучалі беларускія патрыятычныя песні. Мітынгі былі дазволеныя ўладамі і прайшлі без эксцэсаў.

Аднак, у Доме культуры вёскі Казловічы на Случчыне, дзе ўвечары 23 лістапада меўся адбыцца прагляд фільма "40 дзён сялянскай рэспублікі", прысвечаны паўстанню, гледачоў разагнала міліцыя. На арганізатара прагляду фільма Зінаіду Цімошык быў складзены пратакол. Дырэктар Дома культуры Аляксандр Туміловіч напісаў заяву аб звальненні. "Не хачу пад такой ідэалёгіяй працаваць. Я сам напісаў заяву. Ніхто мяне не звальняў. Калі людзям не дазваляюць сабрацца для нечага свайго, то не хачу!"— тлумачыць ён прычыны свайго ўчынку.

Прапануем для азнаямлення агляд таго, як адзначылі Дзень герояў беларусы ЗША, Польшчы і Бельгіі.

**Іст-Бранвік**

1 снежня на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку Ньюджэрсійскі аддзел БАЗА і БАЗ "Пагоня" ладзілі ўшанаванне герояў Слуцкага збройнага чыну. У царкве Святой Жыровіцкай Іконы Божай Маці адбыліся Божая літургія і паніхіда па загінулых ва ўзброеным змаганні на Случчыне. Падчас урачыстай акадэміі быў паказаны фільм пра Слуцкі збройны чын. Затым удзельнікі наведалі помнік загінулым героям і ўсклалі да яго вянкі. А таксама магілу Хвёдара Данілюка, адзінага удзельніка Слуцага збройнага чыну, пахаванага на гэтых могілках.

**Нью-Ёрк**

Да ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну айцец Леанід Акаловіч зрабіў падборку гістарычных матэрыялаў з бібліятэкі Кафедральнага Сабора БАПЦ, што ў Брукліне (ЗША).

"Прыніжаць Слуцкі збройны чын могуць толькі тыя людзі, якія не любяць бацькаўшчыну. Людзі змагаліся за сваё, "каб мець пачэсны пасад мід народамі", і такіх паўстанняў былі сотні супраць бальшавікоў у Беларусі", — кажа айцец Леанід.

Трэба адзначыць, што беларуская эміграцыя на Захадзе заўсёды адзначала ўгодкі Слуцкага збройнага чыну (Дзень герояў) поруч з Днём Волі 25 сакавіка.

**Варшава**

Каб ушанаваць памяць антыбальшавіцкіх паўстанцаў, беларусы наведалі магілу Цімоха Хведашчэні, кіраўніка беларускай антысавецкай партызанкі, грамадска-палітычны дзеяч і настаўнік.

Арганізатар акцыі Анатоль Міхнавец таксама заклікаў беларусаў ушанаваць памяць герояў у сваіх дамах: і запаліць znічы ў памяць слуцкіх паўстанцаў, каб гэты агонь сведчыў пра нашую ўдзячнасць за іх подзвіг, бо сёння сапраўды Дзень герояў. Зварот з такім заклікам быў падпісаны ім напярэдадні ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну разам з гісторыкамі Алесем Краўцэвічам і Алегам Латышонкам.

Акцыя была арганізавана, дзякуючы ініцыятыве Беларуская нацыянальная памяць.

**Брусэль**

Акцыя, прымеркаваная да ўгодкаў Слуцкага паўстання, прайшла на плошчы Шумана ў Бруселі. Арганізатары заяўляюць, што для акцыі адмыслова выбралі час абедзеннага перапынку, каб як найбольш палітыкаў з еўрапейскіх установаў, сядзібы якіх знаходзяцца ў Бруселі, змаглі яе пабачаць. Ход акцыі пракаментаваў сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Зміцер Піменаў: "Людзі адмыслова да нас падыходзяць, цікавяцца нагодай мерапрыемства. І ўсіх цікавіць змест улётак, якія мы распаўсюджваем. Простыя людзі падыходзяць і пытаюцца: а што гэта за сцяг, што гэта за краіна? Мы адказваем, што гэта Беларусь – апошняя дыктатура ў Еўропе. І вельмі прыемна адчуваць падтрымку простых людзей. Бо яны са шчырасцю падтрымліваюць нас".

*Паводле матэрыялаў прэс-службы БАЗА, "Радыё Свабода" і "Беларускага Радыё Рацыя"*

# У БЕЛАСТОКУ З'ЯВІЛАСЯ ВУЛІЦА ІМЯ МІКОЛЫ ГАЙДУКА



У Беластоку з'явілася вуліца імя беларускага педагога, публіцыста і літаратара Міколы Гайдука. Адзінагалосна выказаліся за гэтае рашэнне дэпутаты гарадской рады Беластока.

Ініцыятарам надання адной з вуліц імя Гайдука было дэпутацкае кола "Форум падляшскіх меншасцяў".

Паводле словаў чальца дэпутацкага кола Славаміра Назарука, Мікола Гайдук звязаны з Беластокам перадусім сваёй публіцыстычнай і выдавецкай дзейнасцю: "Ён шмат гадоў працаваў у "Ніве", быў намеснікам галоўнага рэдактара "Нівы". Ён жыў у Беластоку, пісаў эсэ на гістарычныя тэмы, займаўся не толькі падручнікамі, але і навучаннем беларускай мовы. Мікола Гайдук таксама займаўся рэлігійнай дзейнасцю, выдаваў квартальнік "Фос" на беларускай мове".

У 60-х гадах мінулага стагоддзя Мікола Гайдук быў дырэктарам ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. Працаваў журналістам у тыднёвіку беларусаў у Польшчы "Ніва", "Czasopis" і "Przegląd Prawosławny". Разам з жонкай Лідзіяй напісаў адзінаццаць падручнікаў па беларускай мове. Быў аўтарам гістарычных эсэ "Трызна", "Паратунак", а таксама збору легендаў "Белавежскія аповеды".

Памёр Мікола Гайдук у 1998 годзе.

Вуліца Міколы Гайдука знаходзіцца ў раёне Nowe Miasto, недалёка ад рэдакцыі штомесячніка "Przegląd Prawosławny".

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## ЗАКОНАПРАЕКТ "АБ БЕЛАРУСАХ ЗАМЕЖЖА" ПРЫНЯТЫ Ў ПЕРШЫМ ЧЫТАННІ

Палата прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Беларусі прыняла 22 лістапада ў першым чытанні законапраект "Аб беларусах замежжа".

Законапраект уводзіць дакладнае вызначэнне, якія групы людзей маюцца на ўвазе пад беларусамі замежжа.

Па-першае, гэта грамадзяне Беларусі, якія пастаянна пражываюць па-за межамі тэрыторыі краіны. Па-другое, да іх плануецца аднесці замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за мяжой, калі яны самі або іх продкі па прамой лініі нарадзіліся або жылі ў Беларусі. І нарэшце, гэта замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць па-за Беларуссю, але ідэнтыфікуюць сябе як беларусы (з пункту гледжання этнічнай прыналежнасці да беларускага народа або мовы, культуры, гістарычных сувязяў, ведаў і захавання беларускіх традыцый і абрадаў).

Як паведамлялася раней, каментуючы гэты законапраект, намеснік старшыні пастаяннай камісіі палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах Віктар Фясак заявіў журналістам, што працу з беларускімі дыяспарамі за мяжой праводзяць Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры і Апарат упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў.

Вялікі ўнёсак у гэтую справу робіць і Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету" Бацькаўшчына".

Усяго, паводле розных звестак, у свеце пражываюць не менш за 1,5 млн беларусаў.

Недзяржаўныя крыніцы даюць лічбу ад 3 да 3,5 млн, Міністэрства культуры — 2 млн, МЗС — ад 1,5 да 2 млн.

Самая шматлікая дыяспара знаходзіцца ў Расіі, дзе, паводле розных звестак, пражываюць прыкладна 1 млн беларусаў. У Польшчы налічваецца каля 200 тыс., у Казахстане — прыкладна 100 тыс., у Латвіі — 96 тыс., у Літве — 95 тыс.

*БелТА*

*З тэкстам законапраекта можна пазнаёміцца на сайце zbsb.org*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў снежні: **Кірыла Касцяна** (Чэхія), **Паўла Севярынца і Станіслава Шушкевіча** (Беларусь).

Зычым шаноўным імяніннікам цяпла і радасці, выдатнага здароўя, спору ў працы і дабрабыту!

У снежні наступныя сябры Вялікай Рады святкуюць юбілеі: **7 снежня – Радзім Гарэцкі** (Беларусь), **13 снежня – Алена Чуяшкова** (Данія).

Шчыра віншуем нашых юбіляраў і зычым моцнага здароўя, выдатнага настрою, усмешак, святла і любові!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА СНЕЖАНЬ 2013 ГОДА

5 снежня – 220 гадоў таму, у 1793-м, на Гарадзенскім сейме прынятая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай.

7 снежня – 70 гадоў таму, у 1943-м, у Менску невядомымі забіты Вацлаў Іваноўскі (нар. у 1880-м), грамадска-палітычны дзеяч, выдавец, міністр асветы ў Радзе БНР. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Менску.

7 снежня - 85 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Радзім Гарэцкі, грамадскі дзеяч, акадэмік НАН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі БССР, прэзідэнт МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" (1993—2001 гг.) і сябра Рады Згуртавання, аўтар шматлікіх навуковых і публіцыстычных працаў. Жыве ў Мінску.

8 снежня – 50 гадоў таму ў Феадосіі (Украіна) памёр Даніла Васілеўскі (1889-1963), краязнавец, гісторык, літаратуразнавец.

9 снежня – 40 гадоў таму ў Вільні памёр Янка Шутовіч (1904-1973), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнавец, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны ў Павільнісе (цяпер Літва).

10 снежня – Сусветны дзень Дэкларацыі правоў чалавека.

10 снежня – 125 гадоў таму нарадзіўся Мікола Дзямідаў (Беласточчына, цяпер Польшча; 1888-1967), вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч; арганізатар батальёна беларускай самаахновы ў Лідзе.

18 снежня – 40 гадоў таму, у 1973-м, Пётр Клімук стаў першым беларусам, які паляцеў у космас (потым здзейсніў яшчэ два палёты).

24 снежня – 215 гадоў таму нарадзіўся Адам Міцкевіч (фальв. Завоссе, цяпер Баранавіцкі ці Навагрудскі р-н; 1798-1855), польскі паэт, цесна звязаны з Беларуссю, асветнік, філамат.

25 снежня – Каляды (Божае Нараджэнне) паводле грыгарыянскага календара.

25 снежня – 15 гадоў таму, у 1998-м, адбыўся першы перапіс насельніцтва незалежнай Беларусі. Яно складала 10 045 200 чалавек (з іх 8 159 100 – беларусаў). Беларускую мову роднай назвалі 73,7% жыхароў краіны.

26 снежня – 35 гадоў таму памёр Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч; 1890-1978), каталіцкі святар, пісьменнік, паэт, дзеяч беларускай эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі. Пахаваны на могілках Сен-Панкрац у Лондане (Вялікабрытанія).

28 снежня – 105 гадоў таму, у 1908-м, у Вільні заснавана выдавецтва "Наша хата" (дзейнічала да 1911 г.).

**Беларусы ў свеце**
№11(139), лістапад 2013

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27